*За дваццаць апошніх гадоў колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася амаль на 700 тысяч чалавек.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 34 (4389)**

30 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
**Тэл. (8 017) 328 68 71**

СЕНСАЦЫЯ!

## КДБ арыштаваў Андрэя Уцюрына – намесніка старшыні Савета бяспекі, былога начальніка службы аховы Лукашэнкі

*Заведзеная крымінальная справа.*



Катэдж Уцюрына ў Драздах-2 апячатаны.

Як паведамілі «Нашай Ніве» вартыя даверу крыніцы, высокапастаўлены сілавік быў затрыманы тыдзень таму. Дэталі пакуль невядомыя, крыніцы кажуць пра хабар.

Уцюрын – адзін з самых адданых лукашэнкаўскіх гвардзейцаў.

Некалі яшчэ ягоны бацька ўзначальваў элітную часць унутраных войскаў 3214, а сам Андрэй пайшоў у Службу бяспекі прэзідэнта ў 1995-м і даслужыўся да начальніка ў гэтым ведамстве, да якога ў Лукашэнкі самы вялікі давер.

Андрэй Уцюрын нарадзіўся ў 1971 годзе ў Пензе. У 1992-м скончыў Саратаўскае вышэйшае вайсковае каманднае вучылішча МУС Расіі, а ў 2002-м – Акадэмію МУС Беларусі. З 1995 года – у службе аховы Лукашэнкі. Узнагароджаны ордэнамі «За бездакорную службу» і «За службу Радзіме». Кіраўнік Службы аховы ад 2007 года. З 2014-га – намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі.

АНОНС

спецпраект

**СВАБОДНАЯ ПРЭСА: БЕЛАРУСКІЯ РЭАЛІІ**

СУМЕСНЫ ПРАЕКТ «НАРОДНАЙ ВОЛІ» І БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ


(Чытайце на 5-8 стар.)


СІТУАЦЫЯ

## Незвычайны суд

Учора арганізатараў Дня Волі ў Мінску асудзілі за адмову плаціць міліцыі, якая аказвала паслугі па ахове грамадскага парадку падчас мітынгу і канцэрта.

**Юрый Губарэвіч**, **Вольга Кавалькова**, **Ігар Барысаў** і **Мікалай Казлоў** атрымалі з УУС Цэнтральнага раёна Мінска пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па артыкуле «Парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства».

Нагадаем, што арганізатары прынцыпова адмовіліся плаціць міліцыі. На іх думку, у такім выпадку парушаецца канстытуцыйнае права грамадзян на мірныя сходы.

У выніку суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес рашэнне пакараць Юрыя Губарэвіча, Вольгу Кавалькову і Мікалая Казлова штрафамі ў 30 базавых велічынь кожнага (па 765 рублёў). А вось Ігар Барысаў зараз знаходзіцца ў камандзіроўцы, а таму папрасіў суд перанесці разгляд справы на іншую дату.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ДЫЯЛОГ

## Заплюшчваць вочы на канфлікты ў рэгіёне АБСЕ ні ў якім разе нельга

У рэгіёне Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе назбіралася шмат праблем, і заплюшчваць вочы на іх ні ў якім разе нельга. Аб гэтым прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** заявіў учора на сустрэчы са старшынёй Парламенцкай асамблеі АБСЕ **Георгіем Цэрэтэлі.**



*«Згадзіцеся, назбіралася вельмі шмат праблем у нас тут у агульным доме, якія трэба вырашаць: і Нагорны Карабах, і Прыднястроўе, шмат іншых менш значных і гучных праблем. Дадалася Украіна»*, – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт адзначыў, што, можа, вельмі часта крытыкуе арганізацыю за слабую рэакцыю на гэтыя праблемы, аднак іх вырашэнне – непасрэдная работа АБСЕ. «*Гэта арганізацыя перш за ўсё па бяспецы на Еўрапейскім кантыненце, і заплюшчваць сёння вочы на гэтыя праблемы ні ў якім разе нельга*», – падкрэсліў ён.

Аляксандр Лукашэнка дадаў, што ўжо доўгі час на пляцоўцы АБСЕ не праводзіцца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў, на якіх можна было б абмеркаваць бягучыя пытанні і намеціць шляхі выхаду з існуючай сітуацыі. Апошняе такое мерапрыемства прайшло ў 2010 годзе ў Астане, але яшчэ больш маштабная канферэнцыя адбылася ў 1999 годзе ў Стамбуле.

*«Гэта была моцная канферэнцыя, і больш не збіраліся, а трэба было б. Таму вельмі шмат праблем, на якія трэба не проста звярнуць увагу. Трэба збірацца і вырашаць іх. Калі не ўдасца вырашыць, то хаця б намеціць шляхі, перспектывы якія-небудзь. У адваротным выпадку навошта стваралі арганізацыю? Вы заўсёды можаце разлічваць на нашу падтрымку, сумленнасць і шчырасць ва ўсіх пытаннях».*

У сваю чаргу Георгій Цэрэтэлі падзякаваў кіраўніку беларускай дзяржавы за арганізацыю на высокім узроўні 26-й сесіі ПА АБСЕ, якая прайшла ў Мінску ў ліпені 2017 года. Ён таксама падкрэсліў асаблівы характар дружалюбных і дзелавых адносін са старшынямі палат беларускага парламента. «*Мы са спадаром Андрэйчанкам сустракаемся трэці раз. Гэта сімвалізуе актыўнасць Беларусі ў нашай арганізацыі, з нашага боку таксама ёсць жаданне працаваць з краінай*», – звярнуў увагу Георгій Цэрэтэлі.

Ён згадзіўся з Аляксандрам Лукашэнкам, што ў рэгіёне АБСЕ ёсць праблемы, якія патрабуюць абмеркавання і вырашэння. «*Калі ў суседзяў праблемы, гэта і твае праблемы. Я згодны з вамі, што АБСЕ – арганізацыя вельмі сур'ёзная, і многія краіны, і Беларусь, робяць вельмі шмат, каб узмацніць яе. Мы за гэта ўдзячныя*», – канстатаваў старшыня Парламенцкай асамблеі.

Георгій Цэрэтэлі прыбыў у Мінск для ўдзелу ў міжнароднай парламенцкай канферэнцыі Групы падтрымкі Шаўковага шляху ПА АБСЕ «Адзін пояс і адзін шлях: паглыбленне супрацоўніцтва ў імя ўстойлівага развіцця і працвітання».

**(БЕЛТА.)**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Апазіцыі адмовілі ў правядзенні пікета 1 мая

Гродзенскі гарвыканкам спаслаўся на тое, што ў парку Жылібера 1 мая ўжо запланавана правядзенне шэрагу «культурных мерапрыемстваў, прысвечаных Першамаю».

**Мікалай Салянік**, кіраўнік гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ад якой і падавалася заяўка на пікет, сказаў «Народнай Волі», што стаўленне ўлад да апазіцыі не змяняецца.

«*Мы хацелі разам з людзьмі законна адсвяткаваць Першамай*, – падкрэслівае Салянік. – *Я нават тлумачыў у гарвыканкаме, што паставім у парку побач з іншымі шапікамі розных арганізацый свой стол, будзем распавядаць пра дзейнасць нашай партыі, ніякіх мітынгаў ніхто праводзіць не стане. Але, аказваецца, і гэтага нельга нават у дзень салідарнасці працоўных усяго свету*».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## Пасольства Швейцарыі адкрыецца летам у Мінску

Швейцарыя, якая пакуль не мае паўнацэннага пасольства ў Беларусі, плануе адкрыць яго летам 2019 года ў Мінску. Аб гэтым сёння журналістам БЕЛТА паведаміў кіраўнік камітэта па знешняй палітыцы Савета кантонаў Федэральнага сходу Швейцарскай Канфедэрацыі і сустаршыня парламенцкай групы дружбы Швейцарыя–Беларусь **Філіпа Ламбардзі**.

Цяпер у Мінску працуе аддзяленне пасольства Швейцарскай Канфедэрацыі. Яго афіцыйнае адкрыццё адбылося 11 лютага 2008 года. «*Адкрыць пасольства плануецца гэтым летам*, – сказаў Філіпа Ламбардзі. – *Мы працуем над тым, каб гэта рашэнне было прынята ў бліжэйшы час, разглядаем усе магчымыя варыянты*».

РЭГІЁН

## «McDonald's» заплаціў Гродна

*На чарговым аўкцыёне ў абласным цэнтры замежнае ўнітарнае прадпрыемства набыло надзел зямлі ў цэнтры горада для адкрыцця рэстарана «McDonald's».*

21 сотка зямлі ў цэнтральнай частцы горада на скрыжаванні вуліц Савецкіх пагранічнікаў, Транспартнай і Гарнавых абышлася кампаніі ў 1 мільён 40 тысяч рублёў. Пачатковая цана лота складала 125 тысяч рублёў.

Прадстаўнікі кампаніі пакуль устрымаліся ад каментарыяў адносна тэрмінаў будаўніцтва і адкрыцця рэстарана. Праўда, паводле ўмоў аўкцыёну, будаўнічы праект павінен быць распрацаваны ў два бліжэйшыя гады.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

БЛІЦ

*Як вядома, Уладзімір Пуцін сваім указам спрасціў працэдуру атрымання расійскіх пашпартоў для жыхароў так званых ДНР і ЛНР, а пазней заявіў, што разглядаецца пытанне на такіх жа ўмовах раздаваць расійскае грамадзянства ўсім украінцам, а не толькі жыхарам Данбаса.*

## Наколькі верагодны ў будучым падобны сцэнарый адносна Беларусі?

**Юрый ЦАРЫК, палітолаг, эксперт Цэнтра стратэгічных і знешнепалітычных даследаванняў:**

– Я думаю, што такі сцэнарый у дачыненні да Беларусі досыць верагодны ў перспектыве бліжэйшых двух гадоў. Відавочна, што адносіны Беларусі з Расіяй развіваюцца па спіралі, так бы мовіць, чым далей, тым горш. Беларусь не можа пайсці на выкананне ўмоў, якія прапануе Расія, а Крэмль не можа пакінуць усё, як ёсць, і даць Беларусі магчымасць зрабіць самастойны геапалітычны выбар. Таму ў якасці інструмента чарговай эскалацыі і пашырэння свайго ўплыву Расія можа скарыстацца такой мерай, як грамадзянства.

А пры песімістычным сцэнарыі, калі часам беларускія ўлады вырашаць здацца расійскім імперцам, увядзенне альбо саюзнага грамадзянства, альбо расійскага для беларусаў можа здарыцца яшчэ раней.

**Дзмітрый ШАЎЦОЎ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:**

– Глупства нейкае! Магчыма, там склалася такая сітуацыя, але пры чым тут Беларусь? Навошта нам прапаноўваць на льготных умовах грамадзянства Расіі? Тыя беларусы, якія хочуць стаць грамадзянамі Расійскай Федэрацыі, і так могуць гэта беспераашкодна зрабіць...

**Віктар МАЛЬШЧЫЦ, настаўнік (Мінск):**

– Я не вялікі спецыяліст і не палітык, я астраном, але скажу шчыра: мяне непакоіць, што такі сцэнарый адносна Беларусі вельмі рэальны. І прыкра ўсведамляць, што многія беларусы на яго пагодзяцца. Я, на жаль, вельмі часта ў асяроддзі звычайных людзей чую такія інтэнцыі ў бок Расіі, спадзяванні, што вось там заробкі і пенсіі большыя, маўляў, былі б у нас яшчэ пашпарты расійскія, было б усё цудоўна… Я не палітык і нават не ведаю метадаў барацьбы з такой з'явай…

**Юрась ГУБАРЭВІЧ, старшыня руху «За Свабоду»:**

– Такі сцэнарый ужо даўно рэалізуецца. Для беларусаў спрошчаны парадак часовай рэгістрацыі ў Расіі, атрыманне там працы. Але беларусы апошнія годы ўсё часцей для гэтых мэт абіраюць краіны Еўрапейскага Саюза, а не Расію, бо там і ўмовы працы лепшыя, і ўзровень заробкаў на парадак вышэйшы. Таму, на маю думку, перспектывы раздаць беларусам расійскія пашпарты не выглядаюць чымсьці сур'ёзным.

**Леанід ДАКУЧАЕЎ, чытач «Народнай Волі» (Мінск):**

– На жаль, у гісторыі магчыма самае непрадказальнае. І такі сцэнарый цалкам верагодны для Беларусі, толькі з папраўкай: пашпарты для тых, хто лічыць рускую мову і культуру роднымі! Мы ж бачым, як Расія дзейнічала сілай супраць сваіх суседзяў, праваслаўных адзінаверцаў – Малдовы, Грузіі, Украіны. І вектар прыкладання сілы ішоў з усходу на захад, адхапалі кавалачак Малдовы, кавалачак Грузіі, кавалачак Украіны…

**Васіль РУСОВІЧ, сацыёлаг, кандыдат гістарычных навук (Мінск):**

– Не бачу падмурка. Б'юць па твары, а не па пашпарце. А за што нас біць? Лічу, што гэта надуманыя для беларусаў страхі. Нам няма ад чаго і ад каго хавацца. Нас абараняе наш пашпарт!

**Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ, юрыст, дырэктар Беларускага дакументацыйнага цэнтра (Літва):**

– Пуцін на ўсё здольны. І я схіляюся да думкі, што, калі такая прапанова паступіць, нямала беларусаў пагодзяцца на гэту авантуру. Многія – з фінансавых меркаванняў, бо можна будзе разлічваць на расійскія зарплату, пенсію. Тады ўсё здарыцца вельмі хутка, як у Крыме, мы і пікнуць не паспеем, як станем часткай Расіі.

Але калі такія заявы з'явяцца, гэта можна будзе разглядаць як чарговы крок па інкарпарацыі Беларусі і прамое ўмяшальніцтва ў жыццё незалежнай дзяржавы. Ёсць іншыя шляхі змены грамадзянства, калі чалавеку гэта неабходна.

**Вікторыя АЛЕШКА, заслужаная артыстка Беларусі:**

– А пры чым тут Пуцін? Мы жывём у незалежнай краіне і паводле нашых законаў не маем права мець падвойнае грамадзянства, у іншым выпадку прыйдзецца адмовіцца ад беларускага. Не ведаю, як хто, але я патрыётка сваёй краіны, не збіраюся нікуды з'язджаць, і мне не патрэбны пашпарт грамадзяніна Расіі.

**Адам ГЛОБУС, пісьменнік:**

– Наколькі я разумею і адносна гэтых тэрыторый – ДНР, ЛНР – такі сцэнарый малаверагодны, нічога з гэтага не атрымаецца. Бо адна справа – напісаць указ, а другая – яго рэалізаваць. Пашпарты, як усе ведаюць, выдаюць у аддзяленнях міліцыі. У якое аддзяленне трэба звяртацца жыхарам гэтых ДНР, ЛНР за расійскім пашпартам? Можа, ехаць у Маўзалей да Леніна? У пашпартнай сістэме якраз-такі самае галоўнае – тэхнічны момант, пашпарт – гэта сур'ёзная справа. На маю думку, ідзе інфармацыйная вайна, і калі паглядзець больш пільна, то заява Пуціна – фэйк, не больш за тое. Таму нават няма чаго праецыраваць такую сітуацыю на Беларусь.

**Запісала Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГРОМКАЯ ТЕМА

# Юрий ПАШИК: «В известном слове из трех букв – пять ошибок!»

*Московский арбитражный суд рассмотрел иск известной российской фирмы «Ростест», которая занимается сертификацией продукции, к белорусскому ОАО «Беллис». Несмотря на то, что мало кто верил в победу, директор ОАО «Беллис» Юрий Пашик остался доволен решением суда. Более того – Пашик знает, какие эффективные меры уже сегодня может предпринять Беларусь в ответ на российские санкции. «И это будет даже чувствительнее, чем если мы закроем нефтепроводы на ремонт», – говорит он.*

## «…Является одним из лидеров по количеству сертификатов, выданных на несоответствующую продукцию…»

***О предмете иска «Народная Воля» уже рассказывала. Россияне решили, что белорусы в погоне за прибылью безосновательно порочат их деловую репутацию в глазах должностных лиц и хозяйствующих субъектов.***

***В официальном письме на имя министра ЕЭК по экономике и финансовой политике Тимура Жаксылыкова «Беллис» перечислил российские фирмы, которые были уличены Госстандартом Беларуси, скажем так, в некоторой нечистоплотности – они выдавали сертификаты на продукцию, не соответствующую техническим регламентам и стандартам. Одна из этих фирм – АО «Ростест» – подала иск в суд о дискредитации деловой репутации. Они потребовали от «Беллиса» опровержения и компенсации судебных издержек.***



– Суд не нашел оснований для того, чтобы не согласиться с выводами «Беллиса» о том, что «Ростест» является одним из лидеров по выдаче сертификатов на несоответствующую продукцию, – *рассказывает о результатах суда Юрий Александрович Пашик.* – Но! Учитывая, что мы не предоставили доказательств нарушения процедуры проведения испытаний и сертификации по тем сертификатам «Ростеста», которые отменил Госстандарт, в этой части иск признали. Но только в той части, что они не проводят испытаний и не выезжают с инспекцией на завод. Мы в суде предоставили факты по другим сертификатам, а не по тем, которые отменил Госстандарт.

Судом установлено, что «*…утверждение в части «Одним из лидеров по количеству сертификатов ТР ТС, выданных на несоответствующую продукцию, является «Ростест-Москва» соответствует действительности и подтверждено документально, в связи с чем отсутствуют основания для удовлетворения требования истца в части признания не соответствующим действительности сведений в отношении указанного утверждения*».

Правда, в решении суда есть слова, которые вначале ввели нас в ступор, а затем рассмешили. «*Обязать АНО «Редакционно-издательский дом «Новая газета» в течение 5 дней с момента вступления решения в законную силу опубликовать резолютивную часть решения суда по настоящему делу в сети «Интернет» на сайте электронного периодического издания «Новая газета»….*» Замечу, статья, опубликованная в «Новой газете» «Достояние Ямала – итальянский унитаз» не имеет совершенно никакого отношения ни к сертификатам, ни к нашему спору с «Ростестом». Вот такое чудо!

**– Как думаете, будут ли россияне обжаловать решение суда?**

– В принципе, невозможно дискредитировать то, чего не существует.

В суде на вопрос о том, есть ли у представителей «Ростеста» претензии к Госстандарту Беларуси, они четко ответили: нет. Одним из лидеров по выдаче сертификатов на несоответствующую продукцию их назвали не мы, а официальный орган госуправления. Мы лишь процитировали Госстандарт.

**– Вас обязали написать опровержение в ЕЭК…**

– Конечно же, я напишу его, уж поверьте!

Данное решение суда для нас гораздо лучше, чем если бы иск просто отклонили. Потому что это дает возможность нам продолжать эту тему, и мы обязательно выясним, проводил ли «Ростест» надлежащим образом все процедуры по тем сертификатам, которые отменил Госстандарт. Если бы не суд, мы этого не делали бы, а теперь – придется…

**– После решения суда что-то изменится в работе этой компании? Ведь она по-прежнему будет выдавать сертификаты…**

– Хороший вопрос…

А вы знаете, что вообще представляет собой «Ростест»? Это очень интересная структура. Есть две фирмы с таким названием… Одна – федеральная, это достаточно серьезная организация, хорошо оснащенная, которая получает много бюджетных денег, имеет испытательные лаборатории. Но за все время она выдала 300 с небольшим сертификатов. А вот АО «Ростест» не имеет такого технологического оснащения и выдала свыше 37.000 сертификатов. В чем разница между этими двумя организациями? В федеральном «Ростесте» Виталий Бас является директором, а в АО «Ростест» – являлся владельцем.

В федеральный «Ростест» инвестируются миллионы долларов на техническое оснащение, а рыночное преимущество от этого получает частное лицо. Многие, кстати, путают эти две организации и не могут разобраться, кто главный. У них схожие логотипы, до недавнего времени был один юридический адрес…

В 2018 году исчезла аккредитация АО «Ростест» как испытательной лаборатории. Раньше она была, но затем пропала из реестра. Сейчас мы обнаружили, что на международном уровне «Ростест» по-прежнему имеет статус испытательной лаборатории, но уже больше года нет никаких отчетов о подтверждении ее компетентности и прохождении аккредитации. И это тоже серьезная тема для дискуссий!

Мы на своем сайте сделали сообщение для своих иностранных партнеров об этом, чтобы они понимали, что есть два «Ростеста».

Кстати, «Ростест» активно сотрудничает с так называемыми уполномоченными заявителями – компаниями-посредниками. Мы считаем, что это недопустимо. Потому что если уполномоченный заявитель не является импортером, то это нарушение.

Мы понимали, что такой иск против «Беллис» в московском суде – это для нас без шансов. Тем более дело имеет определенный политический контекст. Однако Московский арбитражный суд не нашел оснований опровергнуть мысль о том, что «Ростест» является одним из лидеров по выдаче сертификатов на несоответствующую продукцию.

Это не рядовой иск между субъектами хозяйствования. И немного больше, чем спор относительно каких-то формулировок.

Дело в том, что в России «Ростест» – довольно статусная организация. Например, директор ФБУ «Ростест» является советником председателя Госстандарта России. А АО «Ростест» – компания, которая принимает деньги. По законодательству это, может, и не запрещено. Но по факту… Представляете, если бы было два «Беллиса»? Первый работает на минимальной рентабельности, получает миллионы долларов от государства, покупает испытательное оборудование, проводит испытания, и есть мой личный маленький «Беллис», который просто выписывает сертификаты и шинкует такие же миллионы.

## «Нужно вводить зеркальные меры»

***В некоторых российских сертификатах указаны стандарты, которые вообще не имеют отношения к продукции, на которую они выданы. И это не анекдот. Даже если потребитель и потребует от продавца сопровождающие документы на продукцию, разобраться в них без специального инженерного образования он все равно не сможет.***

– Хорошо, что у нас есть наша национальная система подтверждения соответствия по энергоэффективности и в рамках проводимых работ мы всегда смотрим предоставляемые документы, в том числе и сертификаты, – *говорит Юрий Пашик и показывает мне сертификат какой-то российской фирмы на лампочки.* – Я этот сертификат сделал бы как памятную доску – из бронзы и повесил бы на стену рядом с кабинетом ряда известных российских чиновников. Чтобы все смотрели и видели результаты своей работы.

**– А что не так в этом сертификате?**

– Тут перечислены те стандарты, по которым якобы проводились испытания, но некоторые стандарты к лампочкам вообще никакого отношения не имеют! А те, которые имеют, – их в сертификате просто нет. В номенклатуре на четырех страницах кое-где даже перепутаны маркировки цоколей и колб. В общем, с инженерной точки зрения это просто чудо, а не документ!

Нам приходится работать и сосуществовать в едином Союзе с теми, кто умудряется при написании известного слова из трех букв сделать пять ошибок даже при наличии в руках ручки «Паркер» с золотым пером!

**– Кто выдал этот документ?**

– Из всех органов по сертификации, которые были указаны в списке Госстандарта, аккредитацию потеряли все, кроме «Ростеста». Этот сертификат выдал российский орган по сертификации, аккредитованный в апреле 2017 года. Но свой первый сертификат он выдал только в октябре 2018 года.

**– Объясните, в чем прикол?**

– У владельцев сертификационных сетей уже созданы спящие организации, которые получают аккредитацию, но начинают работу, когда другие фирмы лишаются аккредитации. Вот эта контора за пять месяцев шуганула более 600 сертификатов.

**– До знакомства с вами я и не подозревала, что сертификаты – такое прибыльное дело!**

– Я всегда говорил, что рентабельность 100-долларовой купюры 10.000 процентов. В случае с выдачей таких фейковых сертификатов она примерно такая же.

**– Получается, российским сертификатам вообще нельзя доверять?**

– Нельзя. Более того, российский сертификат – это уже признак тревоги.

Но в этом смысле, конечно, хотелось, чтобы и наш Госстандарт вышел из засады. Стратегически они молодцы – системно организовали надзор на рынке, имеют хорошую фактуру. Ну а дальше что? Беспредел на рынке продолжается. Одни органы по сертификации закрываются, а другие продолжают штамповать фейки.

Не устает удивлять и Федеральная таможенная служба (ФТС) России, которая сначала просто тормозила на таможне все единые сертификаты, выданные не в России. А намедни появилось какое-то сомнительное письмо (№16-88/35497 от 16.04.2019) за подписью заместителя руководителя ФТС, согласно которому теперь в случаях, если выдавались сертификаты и проводились испытания не в России, на таможню нужно будет предоставлять не только копии протоколов испытаний, а еще и таможенные декларации на ввезенные образцы для испытаний, причем нотариально заверенные!

**– Как вы предлагаете этому противостоять?**

– Было бы правильно Таможенному комитету Беларуси и Госстандарту сделать официальный запрос в ФТС и получить публичный комментарий относительно содержания и подлинности этого письма, поскольку оно распространяется в пунктах таможенного декларирования.

Сейчас Россия пытается запретить все белорусские фитосанитарные сертификаты. Я предлагаю ввести зеркальные меры. Тем более идентифицированы лидеры по выдаче сертификатов на несоответствующую продукцию. Все их сертификаты аннулировать на территории Беларуси до момента проведения совместных взаимных сравнительных оценок порядка аккредитации вместе с нашими специалистами, а продукцию отозвать с рынка.

**– А почему чиновники до сих пор не приняли такое решение?**

– Умных – много, смелых – нет.

Но посмотрите: Россия уже запретила ввоз белорусских яблок и груш. Следует понимать, что известная проблема с нефтью имеет ту же техническую основу, что и тема с сертификатами, и в данном случае предлагаемое решение позволит сохранить в Беларуси десятки или сотни миллионов долларов.

На мой взгляд, запрещение сертификатов станет чувствительным для наших так называемых партнеров. Более того – мы себя защитим, свой рынок. Ведь по этим странным сертификатам сюда идет мусор, на который мы тратим свои деньги.

Казахи сделали очень просто: любое ограничение со стороны России – они моментально вводят зеркальные меры.

Настало время решительных действий…

**Марина КОКТЫШ.**

ПА ЗАСЛУГАХ!

# Кожнаму па 5070 рублёў!

*Рабочы і ўласнік будынка па вуліцы 2-й Працоўнай у Гродне атрымалі ўзнагароджанне ад дзяржавы за скарб, які знайшлі ў 2018 годзе.*

Падчас разборкі будынка ў старой частцы Гродна пад бэлькай у маленькай каробачцы ад тытуню былі знойдзены 30 залатых манет XVIII-XIX стагоддзяў, больш за 10 каштоўных упрыгажэнняў – пярсцёнкі, ланцужкі, каронкі.

У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі знаходку ацанілі амаль у 20 тысяч долараў і прызналі гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Паводле закона, уласніку будынка і таму, хто знайшоў скарб, належыць 50% ад яго кошту. Рабочы і ўласнік будынка атрымалі па 5070 рублёў кожны.

Скарб з 2-й Працоўнай, як і іншыя, знойдзеныя ў Гродне і вобласці за апошнія некалькі дзясяткаў гадоў, можна было ўбачыць на выставе ў Новым замку.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ФИНАНСЫ

# В какой валюте белорусы хранят деньги

*По данным Национального банка страны, белорусы хранят иностранной валюты на общую сумму 7,2 млрд долларов и еще 6,76 млрд белорусских рублей на депозитах в банках. Заместитель директора департамента розничного бизнеса «Банка Дабрабыт» **Вера Януть** рассказала, в какой валюте и на какие сроки белорусы предпочитают откладывать сбережения.*

Несмотря на взимание подоходного налога с процентов, полученных по банковскому вкладу (депозиту) сроком менее года, белорусы предпочитают размещать денежные средства в белорусских рублях на короткие сроки. По данным Национального банка Беларуси в феврале 2019 г. доля таких депозитов в банках страны составила 59,8%.

Также население отдает предпочтение безотзывным вкладам, что вызвано более высоким размером процентных ставок по ним. По данным на февраль 2019 г. их соотношение составило 4,7 к 1 в пользу безотзывных.

«*В начале года доля открытых отзывных вкладов во всех валютах составила 14,2% от общего количества, а доля безотзывных – соответственно 85,8%,* – отмечает Вера Януть. – *Наибольшее предпочтение вкладчики банка отдают безотзывным вкладам в белорусских рублях на срок свыше 1 года (34,75%) и безотзывным вкладам в иностранной валюте на тот же срок (13,46%),* – отмечает Вера Януть. – *Этому содействует декрет президента, согласно которому проценты по вкладам в белорусских рублях на срок свыше 1 года, а в иностранной валюте – на срок свыше двух лет не облагаются подоходным налогом*».

Интересный момент: если в рублевых депозитах люди предпочитают безотзывные вклады (82,4%) из-за более высоких ставок, то в валютных депозитах ситуация не такая однозначная – по данным Нацбанка, 44% валютных депозитов составляют отзывные вклады.

«*В нашем банке ситуация иная: почти 38% вкладов – это безотзывные депозиты в иностранной валюте,* – поясняет Вера Януть. – *Но в целом по стране такая ситуация объясняется тем, что население «накапливает» нужную сумму на дорогостоящую покупку (квартира, автомобиль, дача и т.д.). В таких случаях деньги могут понадобиться в любой момент, что и склоняет людей открывать отзывные вклады*».



*– Прежде всего это обусловлено тем, что доходность по безотзывным вкладам значительно выше, а доверие населения к данным видам вкладов растет».*

Исходя из приведенной статистики за январь, можно сделать вывод: вкладчики банка отдают предпочтение открытию безотзывных вкладов как в национальной, так и в иностранных валютах (доллары, евро, российские рубли).

### На год и меньше трех месяцев: самые популярные сроки вкладов

Если говорить о сроках вкладов в белорусских рублях, то наиболее востребованы по данным Нацбанка безотзывные депозиты со сроками до трех месяцев (30,5%) и свыше одного года (33,8%). Что касается валютных депозитов, то тут более равномерное распределение: отзывные вклады до года предпочитают 30,3% вкладчиков, безотзывные свыше 1 года – 28,9% вкладчиков.

### Новых вкладов больше в валюте

По данным Нацбанка ежемесячно объем новых открываемых валютных вкладов примерно в два раза больше, чем рублевых: 545,1 млн рублей против 483,5 млн долларов (1041,4 млн рублей в эквиваленте) за февраль этого года.

«В нашем банке наблюдается та же тенденция: 50,6% вкладов открывается в иностранной валюте, а 49,4% – в национальной, – отмечает Вера Януть. – *Хотя ситуация порой очень изменчива, и большую роль играет сезонность*».

Эксперт прогнозирует, что экономическая ситуация в стране и меры Нацбанка по укреплению белорусского рубля будут способствовать росту доли новых депозитов в национальной валюте.

**Галина РУТ.**

РАКУРС

# От 318 до 554 рублей: майские оклады учителей и воспитателей детских садов

С 1 мая в связи с изменениями тарифной ставки первого разряда увеличатся зарплаты бюджетников. Федерация профсоюзов работников образования и науки опубликовала новые тарифные оклады своих работников. Они зависят от тарифной ставки, корректирующего коэффициента, стажа работы, надбавки за категорию. Но не учитывают другие доплаты: совместительство, премии, классное руководство, проверку тетрадей и т.п. То есть в расчетных листках цифры будут выше месячных окладов.

Итак, с 1 мая зарплата в месяц для учителей школ и воспитателей детских садов с высшим образованием, которые пока не получили категорию, составит от 318,49 до 351,16 рубля,

- со второй категорией – от 354,49 до 387,46,
- с первой категорией – от 399,49 до 437,05,
- с высшей категорией – от 466,79 до 501,87,
- для учителей-методистов – от 520,36 до 554,48 рубля.

Несущественно, но несколько меньше месячная ставка у школьных учителей и воспитателей детсадов, которые имеют среднее специальное образование:

- без категории – от 315,10 до 347, 42,
- со второй категорией – 349,46–381,97,
- с первой категорией – 391,99–424,66,
- с высшей категорией – 453,42–486,39.

Любопытно, какие месячные оклады установлены с 1 мая для обслуживающего персонала. Эта та категория работников, за которую еще в 2017 году вступился лидер официальных профсоюзов Михаил Орда, заявив, что в бюджетной сфере складывается недопустимая ситуация, когда человек, отработавший 22 дня по восемь часов в день, получает заработную плату меньше минимальной по стране. Позже было принято решение работникам бюджетных организаций рассчитывать зарплату по-новому: вместо тарифной ставки первого разряда использовать базовую ставку. Но это будет только с 1 января 2020 года, хотя уже известна величина этой ставки – 180 рублей. Пока же с 1 мая в организациях образования месячный оклад, например, уборщиков помещений, дворников, гардеробщиков составит 159,76 рубля,

- кухонных работников – 152,85,
- сторожа, кастелянши – 153,81,
- помощника воспитателя – 156,17,
- лаборанта – 161,59,
- шеф-повара – 162,54.

Это без учета того, что они будут трудиться дополнительно, а не жить только на ставку. Для сравнения, минимальная зарплата в Беларуси составляет 330 рублей.

И последнее. Недавно Нацстат опубликовал данные по мартовским зарплатам белорусов. Оказалось, что средняя в сфере образования составила 729 рублей.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## На футбольным полі хай растуць тапОлі

У Бараўлянскім лясгасе задужа літаральна ўспрынялі даручэнне А.Лукашэнкі пасадзіць дрэвы «на кожным пятачку»: узаралі і засадзілі сасняком лясную паляну (12 сотак), дзе мясцовыя жыхары стварылі акуратнае футбольнае поле. Людзі тут увогуле бавілі вольны час і нават спраўлялі веселлі.

Сумна людзям на сяле,
Побыт нецікавы.
Дом культуры ёсць, але
Гульні і забавы
Ладзіць ён гады ў рады,
Бо на моладзь – голад:
Хто пакуль што малады,
Той падаўся ў горад.
Рэдкі ў вёсцы маладзён,
Што не п'е «чарніла»,
Не ідзе на стадыён,
Бо зарос кустамі ён,
Гразь запаланіла,
Як і ўсё, што навакол.
І таму сяляне
Часта ладзілі футбол
На лясной паляне.
Там яна была здавён
Без чыйгось прыгляду.
Хлопцы міні-стадыён
Давялі да ладу:
Пазбівалі ўвесь быльнёг,
Вырвалі кустоўе,
Каб вясковец кожны мог
Папраўляць здароўе.
Трэ адзначыць, што туды,
«На сваю палянку»,
Люд цягнуўся сапраўды
Вечарам і ўранку.
Мелі ўласны інтарэс
Дзеці і старыя:
Хтосьці выпіць прыйдзе ў лес,
Сціплы «стол» накрые
І суседа пазаве,
Што з азызлым тварам;
Нехта ляжа на траве –
Хоча быць з загарам;
Але ўсё-такі гульня –
У галоўнай ролі:
Хлопцы бегалі штодня
З мячыкам па полі.
Словам, часта шум і гам
Чуліся з паляны.
Для людзей вясковых там
І Берлін, і Амстэрдам,
І Парыж, і Каны…
Але Бацька – трэба ж так! –
Ім паблытаў карты.
Ён сказаў:
– Любы «пятак»,
Для сяўбы не варты,
Трэба ўвесці ў абарот –
Пасадзіць там дрэвы.
Бацьку ў нас глядзяць у рот –
Прэч усе сумневы!
Кіраўнік лясгаса знаў
Пра паляну тую:
Хоць і месца для забаў,
Ды, лічы, пустуе.
Іх, палян, у лесе – цьма,
Дзе пустуе глеба.
Столькі й саджанцаў няма.
Дый, бадай, не трэба.
Як наведае лясгас
Бацька нечакана,
Вочы рэзацьме якраз
Гэтая паляна.
Быць бядзе, як на «пятак»
Злосна Бацька гляне.
Значыць, высадзіць сасняк
Трэба на паляне!
Так, прынамсі, і было,
Там цяпер не гола…
І бядуе ўсё сяло:
Больш няма футбола –
У дзіцяці акурат
Адабралі цацку.
Я ж параю на разгляд
Ліст адправіць Бацьку.
У пашане ў Бацькі спорт
(Знаюць у народзе!),
Можа ён наведаць корт,
Гойсае на лёдзе.
Запрашае ён і нас
У сваю кагорту,
Каб усе мы вольны час
Прысвячалі спорту,
А калі не спорту, дык
Хоць бы фізкультуры.
І лясгаса кіраўнік
Мецьме від пануры,
Ён заместа пахвалы
Атрымае ў косці:
Будзе Бацька вельмі злы,
Як прыедзе ў госці!

* * *

Самым большым «пятаком» –
Стадыён «Дынама».
Можа, поле сасняком
Засадзіць таксама?..

### Гуляюць лепш у казіно

У трэнера напрыканцы
«Пісака» выпрашыў спытацца:
– А дзе гуляюць лепш гульцы –
У абароне ці ў атацы?
– Па выніках, на жаль, відно,
Што лепш усё-ткі ў казіно…

*«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

РЕЗОНАНС

## «Елки, палки и народные артисты»

Казалось бы, довольно камерная тема поднята мной в последней авторской колонке: зеленые насаждения вокруг столичного учреждения культуры, образующие Аллею славы. Я даже не ожидала, что материал вызовет широкий резонанс. Первым откликнулся **Юрий Гильдюк, художественный руководитель Белгосфилармонии, заслуженный артист Республики Беларусь, профессор.** Его очень впечатлительное письмо напечатано в «Народной Воле» за 12 апреля.

А вот и **генеральный директор издательства «Белорусский Дом печати» Роман Олейник** прислал письмо. В нем сообщаются факты, которые, по мнению руководителя полиграфистов, мне как автору интересно узнать. В принципе, ничего не имею против перечисленных пунктов. Но я писала об аллее, о ее идее в целом. Например, стоит ли генеральному директору Белгосфилармонии так выделять себя отдельной табличкой, которая даже по размеру больше всех остальных? Ну, решил он посадить елки, и ладно. Их каждую весну высаживают в нашей столице десятками. Разве не так? Зачем так выделять себя на общем фоне? И ему, и всем остальным организациям Советского района, которые приняли участие в проекте. Согласились сделать подарок народным артистам, вспомните заповедь: сделал доброе дело – забудь. Вы же артистов хотите прославить, а не себя, так? Тем более администратор – не народный артист. Главная слава конкретно топменеджера филармонии – это прежде всего хорошие афиши, где тесно от гастролеров, звездных имен со всего мира. Впрочем, мечты, мечты…

Лично мне традиция елочек с табличками вообще напоминает о ритуальных услугах. Идея в принципе представляется мне угловатой и неловкой. Но, понятное дело, есть и другое мнение. Тем не менее, замечу, польза от моей заметки все-таки очевидна: прекрасной певице Анастасии Москвиной наконец поменяли дерево и высадили новую пушистую красавицу… А не обратил бы журналист внимания на высохшую ель, так, возможно, и осталась бы еще на долгое время палка с торжественной табличкой рядом, на которой вверху фамилия известной артистки, а внизу – название вашей, уважаемый «Дом печати», как по старинке мы называем издательство, солидной организации. И какое у прохожих должно было быть впечатление?

Не может не радовать то, что публикации в «Народной Воле» вызывают резонанс – критический или положительный, но в любом случае это свидетельствует о том, что они затрагивают какой-то важный аспект нашей жизни. И поэтому мы внимательны к любому публичному высказыванию в свой адрес. Ради свободного обмена мнением, собственно, и выходит наша газета. Открытая дискуссия – залог здорового климата в обществе.

**Елена МОЛОЧКО.**

## А если посмотреть с другой колокольни…

Уважаемая редакция!

Благодарим вас за внимание, уделенное нашей организации в связи с осмотром «с вашей колокольни» голубых елей с надписями, образующих Аллею славы народных артистов и руководителей предприятий на бульваре Мулявина (статья «Елки, палки и народные артисты», газета «Народная Воля», 9 апреля 2019 г.).

Действительно, одно из растений, закупленных в централизованном порядке на общие пожертвования участников акции и имеющее у своих корней название нашего предприятия, не прижилось или не выдержало испытаний холодом или грубым обращением кого-то из прохожих. Приносим свои извинения уважаемой Анастасии Игоревне Москвиной и заверяем, что ей не придется «идти к экстрасенсам»: мы посадили новое дерево взамен увядшего. Надеемся, что коммунальные службы города помогут обеспечить надлежащий уход за нашей зеленой «славой», а мы постараемся следить за его состоянием в дальнейшем.

Также хотим сообщить несколько интересных фактов, которые было бы полезно знать уважаемой госпоже Елене Молочко при подготовке статьи:

1.Полное название Аллеи славы – Аллея славы народных артистов и руководителей предприятий.

2.Организатором проекта создания Аллеи славы выступила Администрация Советского района г.Минска, которая и пригласила к участию руководителей предприятий и организаций, расположенных в Советском районе г.Минска, поддержав идею генерального директора учреждения «Белорусская государственная ордена Трудового Красного знамени филармония» Александра Валентиновича Гарбара.

3.Деревья закупались не каждой из организаций-спонсоров и не для конкретного творческого работника, а централизованно.

4.Бульвар по улице Мулявина относится к озелененным ландшафтно-рекреационным территориям общего пользования, и ухаживают за ним специально уполномоченные коммунальные службы, а не те, кто участвовал в создании Аллеи.

5.Светлана Семеновна Вуячич не просто вдова народного артиста Виктора Вуячича, но и сама была удостоена звания народного артиста БССР в марте 1978 года. Кому, как не ей, сажать дерево в увековечение памяти семьи двух народных артистов?

6.Если бы вы увидели улыбку человека, который, возвращаясь с концерта или просто прогуливаясь по аллее, неожиданно встречает название своего предприятия рядом с именем артиста, которого знает вся страна, – вы бы поняли, что в такой момент человек сам чувствует себя прославленным – не только на весь город, но на всю Беларусь. И простите человеку эту слабость…

7.Порочащими являются не соответствующие действительности сведения, которые умаляют честь, достоинство или деловую репутацию гражданина либо деловую репутацию юридического лица в общественном мнении или мнении отдельных граждан, юридических лиц с точки зрения соблюдения законов, норм морали, обычаев. Это, например, сведения о нечестности, невыполнении профессионального долга, недостойном поведении в трудовом коллективе, сведения, порочащие производственно-хозяйственную и общественную деятельность, и так далее.

**Роман ОЛЕЙНИК,**
**генеральный директор Республиканского унитарного предприятия «Издательство «Белорусский дом печати».**

ПАРАЎНАЕМ…

## Як змянялася насельніцтва гарадоў…



У працяг матэрыялаў у «Народнай Волі» «**Гомель – другі пасля Мінска»** (16 красавіка) і «**Насельніцтва 45 райцэнтраў не перавышае 10 тысяч чалавек»** (23 красавіка) прапаноўваю прааналізаваць змену колькасці насельніцтва ў дынаміцы за 60 гадоў. Як бачна, з 1960-га па 1990-я жыхароў у краіне прыбаўлялася, а затым наступіла амаль дэмаграфічная яма. За апошнія 20–25 гадоў насельніцтва многіх гарадоў Беларусі, як і ўсёй краіны ў цэлым, памянела: Орша, Наваполацк, Светлагорск, Барысаў…

### Насельніцтва гарадоў Беларусі ў розныя гады (у тысячах чалавек)

| Горад | 1959 | 1970 | 1989 | 1999 | 2019 |
|---|---|---|---|---|---|
| Брэсцкая вобласць | | | | | |
| Брэст | 74 | 122 | 256 | 286 | 351 |
| Баранавічы | 58 | 101 | 158 | 163 | 179 |
| Пінск | 42 | 62 | 118 | 130 | 138 |
| Віцебская вобласць | | | | | |
| Віцебск | 148 | 231 | 347 | 341 | 378 |
| Орша | 64 | 101 | 122 | 124 | 117 |
| Наваполацк | – | 40 | 93 | 106 | 101 |
| Полацк | 44 | 64 | 77 | 83 | 85 |
| Гомельская вобласць | | | | | |
| Гомель | 168 | 272 | 497 | 476 | 537 |
| Мазыр | 25 | 49 | 101 | 110 | 112 |
| Жлобін | 19 | 25 | 56 | 71 | 76 |
| Светлагорск | – | 40 | 69 | 73 | 67 |
| Рэчыца | 31 | 48 | 69 | 67 | 66 |
| Гродзенская вобласць | | | | | |
| Гродна | 73 | 132 | 270 | 302 | 374 |
| Ліда | 29 | 48 | 91 | 101 | 100 |
| Мінская вобласць | | | | | |
| Мінск | 509 | 917 | 1607 | 1680 | 1993 |
| Барысаў | 59 | 84 | 142 | 151 | 143 |
| Салігорск | – | 38 | 93 | 101 | 106 |
| Маладзечна | 26 | 50 | 90 | 97 | 95 |
| Жодзіна | 6 | 22 | 55 | 59 | 65 |
| Слуцк | 23 | 36 | 57 | 63 | 61 |
| Магілёўская вобласць | | | | | |
| Магілёў | 122 | 202 | 357 | 356 | 383 |
| Бабруйск | 97 | 138 | 221 | 221 | 218 |
| | | | | | |
| Уся Беларусь | 8055 | 9002 | 10.152 | 10.045 | 9475 |

**Мікалай БЕЛЬЧЫКАЎ, Барысаў.**

ВОЛНУЮЩАЯ ТЕМА

## Пропал дом…

*«Пропал дом!» – хочется воскликнуть вслед за профессором Преображенским, столкнувшимся с бесцеремонностью большевистских «уплотнителей» жизненного пространства. Пропал и мой «дом с историей», расположенный по улице Чернышевского, 12, что, можно сказать, в центре Минска. Дом постройки 1936–1939 годов, проектировавшийся для высшего командного состава.*

Мы с семьей переехали сюда в 2003 году, поменяв «баш на баш» трехкомнатную квартиру над магазином «Цветы» на площади Калинина. При двухступенчатом обмене пришлось потерять по стоимости одну полноценную однокомнатную квартиру в кирпичном доме по улице Мележа. На шестом этаже девятиэтажного дома, с комнатой в 20 квадратных метров и огромнейшей лоджией.

Пожертвовали материальным фактором ради комфорта – возможностью жить в доме с высотой потолков три с половиной метра и в окружении множества радующих глаз деревьев. Алыча, слива, яблони, каштаны, рябина, белая акация цвели под окнами с апреля по июнь. А как полыхала листва деревьев желто-оранжевыми оттенками в октябре – просто чудо!

Третьим немаловажным для меня моментом был чудесный вид из окна одной из комнат на двухэтажное аккуратное здание, огороженное симпатичным забором, со многими десятками раскидистых деревьев и ухоженным цветником.

Когда в 1999 году один крупный российский политик приехал по моему приглашению в Минск, он был очарован нашими городскими видами. Я заказала ему номер в гостинице «Планета». И человек буквально влюбился в окрестности. Если я выражала недоумение по поводу этих восторгов, то слышала в ответ: «Ты ничего не понимаешь! У вас город построен для комфортной жизни. Человек должен жить так, чтобы взгляду было просторно! Чтобы не упираться им в стену, как у нас, в Москве… Я побывал более чем в 150 странах мира. Так хорошо спланирован только Каракас».

Позже узнала, что на каком-то престижном всемирном конкурсе по оптимальной застройке городов Каракас был номинирован, как и Минск. И взял первое место. А Минск, по-моему, второе. Как-то так.

Слова моего друга-политика не раз вспоминала позже, глядя из окна квартиры на описанную мной городскую идиллию. Лепота!

Хотя сегодня московский гость не узнал бы Минск. Эксперименты Юрия Чижа с застройкой коммерчески привлекательных площадок в центре столицы уничтожили тот город, в котором я родилась и который любила с детства. Особенно травмирует взгляд «Не-Кемпински». Проезжая мимо в автобусе, всегда отворачиваюсь в сторону, чтобы не расстраиваться. В этом районе я ходила в школу, гуляла в парке… Мечтаю, что когда-нибудь будет осилен народный проект по сносу этого строительного монстра и восстановлению хотя бы копии старой электростанции. С удовольствием участвовала бы в сборе пожертвований на благое дело.

Так почему же «пропал» мой дом? А потому, что в последние годы застройщики взялись за центр города. Так и написали в первом варианте эскиза проекта детального планирования уплотнения двух кварталов в границах улиц Сурганова–Я.Коласа–Калинина–К.Чорного: мол, коммерчески привлекательный для застройки район. И решили построить здесь семь паркингов примерно на тысячу машино-мест. Причем ссылки архитекторов на удовлетворение запросов местных жителей несостоятельны: уже известно, что 640 машино-мест из этой тысячи пойдут не на нужды жителей кварталов, а на решение чисто коммерческих задач.

Самый большой из семи паркингов на 360 машино-мест планируется построить в 30–40 метрах от нашего дома. Паркинг и досуговый центр. Функции последнего нечетки, ясно одно: там будет банкетный зал. Ради этого сомнительного строительства собираются сносить здание бывшего детского сада в хорошем состоянии, взрослые деревья (около 40 деревьев, половина которых цветет весной), а также большой ухоженный цветник.

В планах ретивых уплотнителей – много сносов и строительство многоквартирного дома. По опыту предыдущей застройки в квартале известно, что производится она с большими нарушениями (жители уже подали обращение в прокуратуру). Уничтожаются придомовые территории, исчезают детские площадки…

Жители кварталов на уплотнение категорически не согласны. Оба квартала переуплотнены по сравнению с прилегающими, что хорошо видно на карте Минска. В последние два года летом в жару здесь постоянный смог, потому что строительство «высоток» нарушило естественное воздушное проветривание. Как и перенаправление всего потока машин, следующих из Зеленого Луга на улицу с односторонним проездом – Чернышевского. Левый поворот на улицы Калинина и Сурганова закрыт, и по улице Чернышевского почти круглосуточно движется поток машин – бампер в бампер. В довершение ко всему в квартале Чернышевского–Я.Коласа–Калинина–К.Чорного постоянно сносят взрослые деревья. Причем не только под нужды строительства, но и под запросы «Минских теплосетей». В декабре прошлого года в нашем дворе убрали семь огромнейших деревьев. Все – из цветущих по весне. По запросу «Зеленстрой» заменил их крошечными елочками.

А недавно ведущие архитектурные величины заговорили еще о пятистах тысячах будущих минчан, которым, мол, потребуется жилье. А как же тезис президента о том, что Минск «не резиновый»?

Значит, опять уплотнение старых застроек? Несколько дней назад я вместе с членами инициативной группы подготовила предложения в Совмин по внесению изменений и дополнений в постановление правительства об общественных обсуждениях. Опоздала – 22 апреля было принято антиправовое по сути решение: оно лишает заинтересованных граждан права влиять на судьбу конкретных планов городского уплотнения. Смысл документа такой: поговорить вы можете, но решение о судьбе вашей среды обитания будут принимать другие. Кто именно? Да знаем мы их – это «триада» из городских и районных чиновников, проектировщиков-архитекторов и застройщиков. Постановление вступит в силу 1 июня.

Похоже, общественное обсуждение планов уплотнения наших двух кварталов будет историческим – последним, проходящим пусть по несовершенным правилам, но дающим возможность хотя бы пытаться отстоять коллективную волю людей. Оно состоится в мае.

После этого можно устраивать публичную гражданскую панихиду по остаткам наших социальных прав. Хоронить будем наше конституционное право на благоприятные условия проживания (ст.46 Конституции Республики Беларусь). Звучит это так: «Каждый имеет право на благоприятную окружающую среду и на возмещение ущерба, причиненного нарушением этого права». Статья 14 Закона Республики Беларусь «Об охране окружающей среды» гласит, что «право на благоприятную окружающую среду принадлежит гражданину от рождения»…

Скажу честно: мне не так важно, что после строительства огромного паркинга с досуговым центром перед моими окнами рыночная цена нашей квартиры существенно упадет. Важнее то, что **упадет качество жизни**.

Позицию «триады» по уплотнению Минска мы знаем. Но если Совмин принимает такое постановление о кастрации наших прав, то «кто контролирует контролеров» (Ювенал)?

Правильно – президент. Тогда скажите: как может глава государства допускать нарушения своих же жесточайших указаний? Вот их ревизия:

2015 год – Лукашенко публично высказывается против уплотнения Минска и призывает строить больше жилья и инфраструктуры за МКАД.

2017 год – президент вновь осуждает уплотнительную застройку и практику вырубки деревьев в Минске, предлагает перестать «штамповать» жилье, чтобы не городить конфликт с населением, а чиновникам – испытать «новации» на себе: построить «высотку» в 12 этажей рядом со своим домом.

2018 год – Александр Лукашенко на встрече с активом Минска предлагает «возвращать город людям», критикует слабо подготовленные общественные обсуждения, советует привлекать неравнодушных граждан к решению проблем города (чиновники сделали с точностью до наоборот).

Именно этим я и руководствовалась, когда излагала свои предложения в новую редакцию положения об общественных обсуждениях. Хотела предложить усовершенствовать процедуру оповещения о начале общественного обсуждения по уплотнению или реконструкции городских территорий; увеличить срок оповещения до полугода, чтобы информация разошлась и люди подготовились; дать на само обсуждение не 25 дней, а два месяца, как во многих странах (за 25 дней сложно разобраться в технической документации); обязать предоставлять жителям территории копию реального проекта детального планирования (можно за плату), а не эскиз, где нет «стежек-дорожек», расстояний и т.п.; создавать комиссию на паритетных началах из жителей и госслужащих; принятие решения осуществлять простым большинством; допускать на заседание комиссии общественников из района до 10 человек без права обсуждать и голосовать, а также СМИ.

В завершение хочу все же персонально обратиться к Александру Григорьевичу Лукашенко.

Господин президент, года же Ваши требования начнут исполняться?

**Ольга АБРАМОВА,**
**коренная минчанка.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 30 КРАСАВІКА 2019 г.



АКЦЭНТЫ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
медыяэксперт

# Сапраўдная прэса заўжды выцягвае шкілеты з шафы

Беларускае начальства ў сваёй нелюбові да прэсы не адзінокае. Кладучы руку на сэрца, вялікія шышкі нідзе ў свеце не любяць прэсу, што іх пакусвае. Вунь і амерыканскі прэзідэнт **Дональд Трамп** зусім па-сталінску называе неўпадабаных журналістаў ворагамі народа. Але фішка ў тым, што ў Трампа рукі кароткія, каб амерыканскую прэсу закілзаць. Дэмакратыя!

У нашым выпадку галоўныя беды журналістыкі ідуць не столькі ад канкрэтных цемрашалаў, колькі ад спецыфікі палітычнай сістэмы. У Беларусі яна збудавана так, што неўпадабаныя медыя лёгка ўзяць на цугундар. Большасць СМІ наўпрост падначалена вертыкалі, рэшту ж з лёгкасцю і асаладай трымаюць у чорным целе.

**Аляксандр Лукашэнка,** выступаючы нядаўна з пасланнем народу і парламенту, даў зразумець, што ў яганым атачэнні маюцца ястрабы, якія ўвогуле заклікаюць *«зачыніць інтэрнэт, нейкі асобны інтэрнэт стварыць»*. І ён, Лукашэнка, іх трохі прытрымлівае: *«Не тая сітуацыя ў краіне, не тая абстаноўка, каб усіх душыць»*.

## Улады трымаюць руку на горле СМІ

Так, дадушваць незалежныя медыя кіроўным вярхам няма патрэбы. Па-першае, варта мець нейкую іх жменю напаказ замежнікам: бачыце, і ў нас плюралізм. Па-другое, гэта ўсё ж канал зваротнай сувязі, з якой у аўтакратыях кепска. Адчуваецца, што афіцыйны лідар з цікавасцю сочыць менавіта за водгукамі незалежных медыя на ягоную палітыку, бо хіба дзяржСМІ праўду скажуць?

Прэзідэнт раз-пораз заклікае чыноўнікаў кантактаваць з медыя. Дзяржсакратар Савета бяспекі **Станіслаў Зась** таксама заяўляе, што чыноўнікі мусяць працаваць з прэсай, у тым ліку недзяржаўнай.

Але гэта збольшага дэкларацыі. А вось вам жалезны факт: буйныя недзяржаўныя медыя, у тым ліку *БелаПАН*, *TUT.BY*, *«Еўрарадыё»*, не былі акрэдытаваны на тое самае прэзідэнцкае выступленне з пасланнем.

Гэта Зась такі прагрэсіўны. А большасць чынавенства думае іначай, перастрахоўваецца. Галоўнае ж – сама сістэма закрытая і рэпрэсіўная паводле свайго духу. У незалежных медыя ўлада па вялікім рахунку адчувае небяспеку, варожую сілу. Бо чынавенства імкнецца да непадкантрольнасці, прырода ж СМІ у тым, каб выцягваць шкілеты з шафаў у кабінетах улады. І паколькі ў нашым выпадку ў дзяржаўнага апарату развязаны рукі, дык ён абавязкова будзе калі не дадушваць прэсу (*«не тая абстаноўка»*), то ва ўсякім разе трымаць руку на яе горле.

Паказальна, што нават ва ўмовах фактычнага супрацьстаяння з Масквой, якая прыціснула патрабаваннем «прасунутай інтэграцыі» (а насамрэч мяккай інкарпарацыі), беларускае кіраўніцтва не наважваецца даць болей волі незалежным СМІ. Хоць менавіта яны ствараюць той кантэнт, які дэ-факта ёсць супрацьвагай імперскай прапагандзе, ментальнай экспансіі «русского мира». Але ж для тутэйшага начальства важней, каб незалежная прэса не набрала зашмат моцы, бо гэта выглядае пагрозай сістэме.

Каб знясіліць і прыстрашыць недзяржаўныя медыя, раз-пораз ладзяцца такія акцыі, як нашумелая «справа БЕЛТА». З той жа оперы – нядаўні ператрус у мінскім офісе тэлеканала *«Белсат»*.

## Інтэрнэт: джына ўжо не загоніш у бутэльку

Апошнім часам і ў палітычнай, і ў медыйнай сферы пайшло відавочнае закручванне гаек, бо набліжаюцца выбарчыя кампаніі. А тут яшчэ перад вачыма ўкраінскі прыклад: трыумфатар тамтэйшых прэзідэнцкіх выбараў **Уладзімір Зяленскі** са сваёй камандай актыўна выкарыстоўваў для раскруткі тэлебачанне, інтэрнэт, сацыяльныя сеткі.

Сеціва ўвогуле стала вялікім галаўным болем беларускіх улад. Друкаваную прэсу, ТБ ды радыё даўно збольшага падпарадкавалі. А вось на інтэрнэт доўга не зважалі. Можна сказаць, праспалі гэты феномен.

Сёння ж наклады казённых газет падаюць, тэлевізійная аўдыторыя старэе, звужваецца, а маладзейшыя і болей прасунутыя сыходзяць на сайты, у месенджары, сацсеткі. І вось у сеціве дзяржаўная журналістыка разгромна прайграе недзяржаўнай. Бо на сайт жа прымусовай падпіскай не загоніш. І паперы, друкарняў, дарагой тэхнікі, як тэлевізійшчыкам, – усяго гэтага анлайн-журналістам не трэба. Іх кампактныя, мабільныя, крэатыўныя каманды цяжка прыціснуць звыклымі цэрберскімі метадамі. Незалежныя анлайн-рэсурсы аператыўна раскручваюць самыя гарачыя, вострыя тэмы, на якія дзяржаўныя СМІ могуць пісаць толькі паводле адмашкі і толькі ў прадпісаным зверху ключы.

Дамінаванне ў інтэрнэце – вялікі поспех незалежнай беларускай журналістыкі. За анлайн-медыя будучыня. Гэтага джына ўжо не загоніш у бутэльку драконаўскімі папраўкамі ў закон аб СМІ. Хоць летась, адчуваю, была далёка не апошняя порцыя такіх паправак. Цэрберы дзяўбуць: маўляў, адстаём ад рэалій. Дык вы, панове, адсталі назаўжды са сваім мысленнем дыназаўраў.

## Спакойна рабіць сваю справу, выжываць насуперак

Я далёкі ад самалюбавання: маўляў, якія мы крутыя на тле «госаў». Незалежным журналістам варта быць самакрытычнымі. І ў прыватнасці – трымацца канонаў свайго рамяства, не спісваць хібы кантэнту на агрэсіўнае асяроддзе.

Так, улады нас не песцяць, але гэта не падстава, каб збівацца на барыкадную журналістыку, прымітыўнае клеймаванне рэжыму. Не варта паддавацца і ціску апазіцыйнай тусоўкі, асабліва канапных радыкалаў: маўляў, чаму вы, журналісты, кепскія змагары, слаба піярыце партыйныя праграмы, займаеце пазіцыю па-над схваткай і г.д.? Смешна і сумна, калі апазіцыя, як і ўлада, хоча бачыць у медыя свае рупары.

Трэба спакойна рабіць сваю справу: інфармаваць аб'ектыўна, крытыкаваць аргументавана, адлюстроўваць розныя погляды і шукаць разумнае выйсце з той складанай гістарычнай і геапалітычнай сітуацыі, у якой апынулася Беларусь.

Так, гульня ў «братнюю інтэграцыю» прывяла да таго, што імперская пагроза сёння навісла дамоклавым мячом. І стратэгія ўлад – неяк разруляваць сітуацыю з Крамлём без рэформаў – слабая, няслушная. Але асаблівая подласць сітуацыі ў тым, што і рэзкія рухі Беларусі (уявім сабе, што тут перамагаюць праеўрапейскія сілы) могуць справакаваць анексію. Што мы бачылі на прыкладзе Украіны.

Рабіць грунтоўны паліталагічны аналіз – дзе мы з вамі апынуліся і як выблытвацца – не ёсць мэтай гэтага артыкула. Я толькі хачу падкрэсліць, што медыя павінны асэнсоўваць нашу сітуацыю ва ўсёй яе складанасці і супярэчлівасці. І па вялікім рахунку мы, канечне ж, не па-над схваткай, бо хварэем і змагаемся за будучыню Беларусі.

Пры гэтым трэба цвяроза і па-філасофску прымаць рэаліі. У свой час улада падзяліла журналістаў на «чэсных» і «нячэсных» – і гэты падзел нікуды не падзенецца, пакуль не зменіцца палітычная сістэма. Колькі б ні казалі наверсе агульных фраз пра адкрытасць і кантакты з медыя, колькі б ні ладзілі розныя каты Леапольды «круглых сталоў» пра агульную журналісцкую этыку. Бо калі зверху ў дзяржаўныя рэдакцыі ідзе каманда мачыць «пятую калону», то ўся этыка ляціць на памыйку, і кляпаюцца брыдкія пасквілі.

Хтосьці з «госаў» кажа: якая розніца, у нас гаспадары і ў вас гаспадары. Але розніца каласальная, і тыя, хто так кажа, самі добра яе ведаюць. Так, і недзяржаўныя медыя вельмі розныя, у іх стае хібаў. Аднак жа трапна сказаў **Альбер Камю**: *«Свабодная прэса бывае добрай або кепскай. Гэта слушна. Але несвабодная прэса бывае толькі кепскай»*.

ТЭНДЭНЦЫІ

# Што змянілася ў медыясферы ў мінулым годзе?

БАЖ з году ў год ажыццяўляе маніторынг парушэнняў правоў журналістаў, звязаных з іх прафесійнай дзейнасцю, а таксама ўмоў функцыянавання сродкаў масавай інфармацыі.

Калі ў 2017 годзе быў зафіксаваны 101 выпадак кароткачасовых затрыманняў журналістаў падчас выканання імі сваіх прафесійных абавязкаў, то за 2018 год – у тры разы менш. У дзесяці выпадках журналісты былі змешчаныя пад варту на тэрмін да 3 сутак.




У 2018 годзе працягваўся па нарастаючай судовы пераслед журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Колькасць штрафаў журналістам-фрылансерам рэзка ўзрасла – гэта 118 выпадкаў супраць 69 у 2017 годзе. Агульная сума штрафаў перавысіла 43 тысячы еўра.




Тэндэнцыяй апошніх гадоў з'яўляецца павелічэнне фінансавання дзяржаўных медыя, якое закладваецца ў бюджэт і размяркоўваецца на пазаконкурснай аснове. У адпаведнасці з законам «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2019 год» яно складзе 151.211.151 руб. (каля 62 млн еўра). Гэта амаль на трэць больш, чым у папярэднія гады.




Нельга пакінуць па-за ўвагай шэраг важных падзей мінулага года, якія негатыўна адбіліся на становішчы ў медыясферы.

У чэрвені 2018 года Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь прыняў папраўкі ў Закон «Аб сродках масавай інфармацыі», якія істотна пашыраюць дзяржаўны кантроль над інтэрнэт-прасторай у Беларусі. Закон, у прыватнасці, уводзіць добраахвотную рэгістрацыю інтэрнэт-рэсурсаў у якасці СМІ, аднак захоўвае неабгрунтавана складаны дазвольны парадак гэтай рэгістрацыі. Тыя сайты, якія не пройдуць рэгістрацыю, пазбавяцца правоў СМІ, а іх карэспандэнты – журналісцкага статусу; пры гэтым на іх распаўсюджваюцца ўсе меры адказнасці, прадугледжаныя заканадаўствам аб СМІ. Захоўваецца пазасудовы парадак блакіравання інтэрнэт-рэсурсаў Міністэрствам інфармацыі і ўводзяцца дадатковыя падставы для гэтага (напрыклад, выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсу для ажыццяўлення забароненай заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь дзейнасці). Цяпер інтэрнэт-рэсурсы абавязаны забяспечыць ідэнтыфікацыю каментатараў на сваіх старонках і на форумах і праводзіць мадэрацыю іх каментарыяў пад пагрозай адказнасці за іх.

У мінулым годзе мы сталі сведкамі некалькіх крымінальных спраў, звязаных са свабодай выказвання меркавання. Быў агучаны прысуд фігурантам справы «рэгнумаўцаў», якія да гэтага правялі пад вартай чатырнаццаць месяцаў, узбуджаны крымінальныя справы супраць блогера Сяргея Пятрухіна, кіраўніка інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» Алеся Ліпая (была спынена ў сувязі з яго смерцю). Так званая «справа БЕЛТА», абвінавачванні па якой былі прад'яўлены пятнаццаці журналістам, скончылася асуджэннем Марыны Золатавай, галоўнага рэдактара TUT.BY – самага папулярнага навінавага рэсурсу.

Дзякуючы апошняй справе, агульная колькасць ператрусаў, якія былі праведзены ў журналістаў, блогераў і ў рэдакцыях СМІ, у 2018 годзе дасягнула 26.

У 2018 годзе павялічылася колькасць выпадкаў выкарыстання заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму для абмежавання свабоды выказвання меркавання. Журналісты, грамадскія актывісты і шараговыя грамадзяне прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці за публікацыі ў сацыяльных сетках. Падставай для гэтага з'яўляецца артыкул 17.11 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, які ўстанаўлівае адказнасць за распаўсюджванне інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць. Так, журналіст-фрылансер з Гродна Аляксандр Дзянісаў быў аштрафаваны на 612,5 беларускага рубля за рэпост двух відэа аб удзеле брэсцкіх анархістаў у пратэстнай акцыі 2017 года «Марш дармаедаў».

*• У 2018 годзе павялічылася колькасць выпадкаў выкарыстання заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму для абмежавання свабоды выказвання меркавання. Журналісты, грамадскія актывісты і шараговыя грамадзяне прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці за публікацыі ў сацыяльных сетках •*

Усё гэта сведчыць пра тое, што паслядоўная палітыка дзяржаўных улад, накіраваная на ўсталяванне максімальнага кантролю над інфармацыйнай прасторай краіны, працягвае рэалізоўвацца. У 2018 годзе яе першачарговай мэтай, відавочна, стаў «беларускі сегмент інтэрнэту».

**Вольга СЯХОВІЧ, юрыст.**

РЭГІЁН

# Анатоль САНАЦЕНКА: «Ваюем не мы, ваююць з намі»

*«Бабруйскі кур'ер» – анлайн-выданне. Пасля ўнясення паправак у закон «Аб СМІ» ўлады перасталі лічыць яго сродкам масавай інфармацыі.*

*«Вось такі «прагрэс» – ад друкаванага выдання са стогадовай гісторыяй – да пазбаўлення статусу СМІ, статусу журналістаў. І ўсё гэта адбываецца пад цырыманіяльныя размовы чыноўнікаў пра еўрапейскі вектар развіцця, пра значныя паляпшэнні ў сферы правоў чалавека, у сферы медыя»,* – кажа галоўны рэдактар **Анатоль Санаценка**.



«Бабруйскі кур'ер» пастаянна сутыкаецца з цяжкасцямі і перашкодамі ў атрыманні інфармацыі. З часоў пачатку мэтанакіраванай палітыкі знішчэння незалежных выданняў Бабруйскі гарвыканкам не запрашае і не пускае журналістаў «БК» на свае планёркі і пасяджэнні. Амаль немагчыма, за вельмі рэдкім выключэннем, атрымаць каментарыі ад чыноўнікаў і кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў па розных пытаннях і сітуацыях у горадзе.

Сутыкаўся «Бабруйскі кур'ер» і з затрыманнямі і судамі. Як распавёў Анатоль Санаценка, за апошнія 16 гадоў працы журналістаў выдання затрымлівалі пяць разоў. Аднойчы – каб перашкодзіць паездцы ў Мінск для асвятлення дазволенага Чарнобыльскага Шляху. Яшчэ чатыры разы – непасрэдна падчас працы. На журналістаў «БК» спрабавалі заводзіць адміністрацыйныя справы, пераважна паводле артыкула 23.34 КаАП – як на ўдзельнікаў незаконных масавых мерапрыемстваў, хоць яны не былі ўдзельнікамі, а выконвалі свае працоўныя абавязкі.

*«Памятаю, калі мы пераключыліся на працу з нашым анлайн-выданнем і пачалі рабіць экспрэс-апытанні на вуліцах Бабруйска, мясцовыя ўлады «прывіталі» нас выклікам нарада міліцыі на месца адной з такіх апытанак»,* – узгадвае Анатоль Санаценка.

Затрымлівалі журналістаў падчас «маўклівых пратэстаў» у 2011 годзе, а таксама падчас мітынгаў «недармаедаў» у 2017-м.

*«26 сакавіка 2017 года падчас работы на «мітынгу недармаедаў» у пастарунак адвезлі амаль палову рэдакцыі «БК», уключаючы мяне»,* – зазначае Анатоль Санаценка.

Пра ўмовы працы журналістаў «БК» спадар Санаценка кажа, што «працаваць даводзіцца ў сітуацыі вайны», «як на перадавой».

*«Ніколі не ведаеш, адкуль прыляціць «снарад»*, – кажа галоўны рэдактар. – *Толькі ваюем не мы, незалежныя журналісты, якія робяць сваю справу, распавядаюць пра падзеі, а ваююць з намі – дзяржаўныя чыноўнікі. З розных арганізацый і ведамстваў. Якія ментальна яшчэ не вылезлі з брэжнеўскага часу і жывуць таталітарнымі паняццямі СССР – «турмы народаў».*

**Віктар Масаловіч**, журналіст, відэааператар «Бабруйскага кур'ера», кажа, што працаваць ва ўмовах, створаных дзяржавай для незалежнай прэсы, асабліва калі табе блакіруюць доступ да інфармацыі, – няпросты выклік.

– *Самае страшнае, што простыя людзі баяцца гаварыць,* – кажа аператар, спасылаючыся на свой досвед правядзення відэаапытанняў на вуліцах Бабруйска. –*Пытаешся: за каго вы прагаласавалі б – за Лукашэнку ці за Зяленскага? Баяцца адказваць на камеру, кажуць: «мы ў школе працуем, таму адказваць на ваша пытанне не будзем…»*

Галоўны рэдактар «БК» падкрэслівае, што цяжкасці анлайн-выдання звязана з яго незалежнай пазіцыяй. Але саступаць і ахвяраваць свабодай слова і меркавання «Бабруйскі кур'ер» не збіраецца.

**Марына МАЎЧАНАВА.**

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# За что штрафуют фрилансеров?

Гарантированное Конституцией каждому белорусскому гражданину право на получение и распространение информации (ст.34) у нас запросто перечеркивается практикой применения ст.22.9 Кодекса об административных правонарушениях, которая запрещает незаконное изготовление продукции СМИ.

И хотя неоднократно правозащитники и юристы подчеркивали, что она не может применяться к тем, кто лишь собирает информацию и отдает той или иной редакции, белорусские власти продолжают привлекать к ответственности журналистов-фрилансеров. Таким образом проводится целенаправленная работа по удушению свободы слова в стране, по затыканию ртов журналистам. По данным ГА «Белорусская ассоциация журналистов», только в 2017 году было 69 случаев привлечения журналистов-фрилансеров к ответственности. Их обвиняли в том, что они-де работали на иностранное СМИ, не имея на это аккредитации, предоставленной белорусским МИДом. Ни сотрудники милиции, ни судьи почему-то не задаются вопросом: как может получить аккредитацию человек, официально не состоящий в штате этого иностранного СМИ? В результате очередной штраф, очередное попрание Конституции и очередное лишение белорусских граждан возможности получить информацию от независимого журналиста.




**Владимир ЛАПЦЕВИЧ.**

спецпраект

# СВАБОДНАЯ ПРЭСА: БЕЛАРУСКІЯ РЭАЛІІ

СУМЕСНЫ ПРАЕКТ «НАРОДНАЙ ВОЛІ» І БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ










У якіх толькі пераплётах не даводзіцца бываць беларускім журналістам...

ТЭЛЕРЭЦЭНЗІЯ

# Русский след на «Беларусь 1»: кто играет за соседа

Державное ТВ Беларуси – для тех, у кого крепкие нервы. Так, например, новостной поток «Беларусь 1» сжимает реальную жизнь страны до уровня официальной «паркетной» хроники, саморекламы первого лица (с бессловесной – или лояльно озвучивающей банальности в режиме твердого согласия с президентом – массовкой из чиновных), рапортов об успехах, условно проблемных сюжетов, культурно-спортивного позитива и преимущественно мрачных вестей из-за кордона.

Первый белорусский четко выражает внутреннюю смысловую конфликтность официального информационного порядка: размытая национальная идентичность (вспомним Лукашенко в Питере: «Я тоже в гостях – но как дома!») соседствует с декоративной демонстрацией собственной «отдельной» значимости (от проведения детского «Евровидения» до статуса «донора мира»), а ритуальное вещание о «наших людях» и «братском» русском народе – с эмоциональными речами первого лица страны о жизненной важности суверенитета.

При этом степень суверенности распределяется очевидно неравномерно.

Нервные реплики первых лиц и публичная полемика в стиле «торговых войн» объективно противоречат сопредельным (нередко в рамках одного выпуска) сводкам успешного сотрудничества, а эмоциональные президентские упреки россиян в «национальном эгоизме» слабо рифмуются с его же заверениями о неизменно приоритетном статусе восточного партнера.

С одной стороны, однозначная русскоцентричность экономического и культурного секторов (четко прописанная даже на уровне новейших «недо-братских» разногласий с Кремлем – мол, «мы к вам со всей душой, а вы…» – тут, по сути, речь идет не о разводе, а о «честных» условиях брачного контракта). Постоянные ссылки на духовную близость, творческие альянсы, успехи белорусов в российских регионах (как повод ждать удачи аналогичных проектов… в Африке). Плюс радостные вести о новых авиарейсах в Россию, совместной выставке живописи и визите белорусских кадетов на московский бал. Тут все служит аргументом в пользу дальнейшего бесконфликтного сближения, которое трактуется как нечто очевидное и бесспорное, однозначно обладающее высоким ценностным потенциалом.

С другой стороны, демонстративная «отдельность» политической позиции и политического выбора, «суверенная» риторика под лозунгом защиты интересов своего народа и подчеркнуто взвинченный режим переговорной коммуникации с российскими властными структурами.

Политическая конфликтность объяснима. Фактически речь идет об тактиках самосохранения наличного белорусского политического режима в тени весомого игрока – российских политических элит (характерно, что в острой ситуации с Керченским проливом канал «Беларусь 1» в качестве базовой концепции безоговорочно принял трактовку российской стороны). По сути, идет торг о цене сотрудничества двух «главных по стране» – и, соответственно, гарантиях сохранения ими своего статуса. И только здесь, на уровне балета первых лиц (в отличие от культуры и региональной экономики), еще сохраняется – и предъявляется публике – официальная публичная интрига. Демонстративное расхождение позиций.

Судьба отношений с Российской Федерацией (и не только) разыгрывается в стиле «Игры престолов» – как распасовка одиноких харизматиков.

И тут важен многократно раскрученный и эмоционально озвученный пример Франции с ее «желтыми жилетами»: мол, там рулит чернь – а у нас всё по уму. Всё, как главный сказал.

В общей картине мира по «Беларусь 1» нет места ни гражданскому обществу, ни низовым инициативам, ни европейским ценностям, ни независимой (да и любой более-менее весомой – не считая пары-тройки персонажей с неопределенным статусом) экспертизе, ни неофициальной культуре, ни любым другим политикам, кроме главного и единственного стратега и ньюсмейкера – А.Г.Лукашенко.

Право голоса здесь имеют лишь президент с бригадой служилых. Солист с подпевкой. Из российских – лояльные гости режима. И соразмерный по статусу восточный брат – чтобы подчеркнуть нашу правоту.

*• Новостное ТВ становится полем для битвы небесных драконов, а зрители – пассивной массовкой наблюдателей. Это аттракционное вещание закрытого типа, заточенное на режим пропагандистского самоповтора и лишенное ресурсов качественного роста и смыслового обновления •*

Реальности нет. Есть лишь мантры и заклинания. Ритуальные поклоны и ритуальные проклятия. И снова поклоны. И снова проклятия.

Новостное ТВ становится полем для битвы небесных драконов, а зрители – пассивной массовкой наблюдателей. Это аттракционное вещание закрытого типа, заточенное на режим пропагандистского самоповтора и лишенное ресурсов качественного роста и смыслового обновления.

А это уже серьезно. Наши державные медиа принципиально неконкурентоспособны и стабильно сдают стратегическую инициативу восточному соседу. Ноль идей – кроме дежурной сказки про самого главного «крепкого хозяйственника». Минимум идентичности: вышиванка по праздникам, Москва в голове, хороводы на Линии Сталина.

Два основных измерения культурно-политической интервенции: верхний этаж – квазисоветская политическая прагматика с общей ностальгией по административным триумфам и победной войне, нижний – поле народной веселухи и славянского отвяза. Стас Михайлов, боевые хоккеисты и медведь с огнеметом.

Они жгут. Мы подгораем.

Асимметричность коммуникации, подмена информации пропагандой, синхронная зачистка и принудительная центровка нашего и соседского информационного поля, отсутствие адекватного по качеству противовеса российским медиаканалам, перенасыщенность вечерних эфиров соседским поп-материалом и сериальным шлаком…

Все это делает белорусское госТВ (вне зависимости от контента) русским.

«Лукашенко-ТВ» фактически работает на Путина. Аналогично «Путин-ТВ» лепит из Лукашенко самодержца-демиурга. Единоличного распорядителя нашей судьбы.

Соразмерной «русскому миру» оказывается здесь не только экономическая, образовательная и информационная (практически колониальная) зависимость от Большого Брата, но и аналогичная по сути матрица медиапотоков: деградация новостного эфира, превращение его в рекламный перформанс авторитарных режимов.

Где главный месседж – неизменность центровых.

**Максим ЖБАНКОВ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Беларуская асацыяцыя журналістаў упершыню возьме ўдзел у выставе «СМІ ў Беларусі»

*На сваім стэндзе прадстаўнікі недзяржаўнага журналісцкага аб’яднання раскажуць пра сітуацыю са свабодай слова ў краіне, правядуць шэраг брыфінгаў, сустрэч з галоўнымі рэдактарамі недзяржаўных медыя, прадставяць адукацыйныя праграмы для калег і дадуць юрыдычныя парады па заканадаўстве ў галіне СМІ.*

Выстава «СМІ ў Беларусі» пройдзе ў НВЦ «БелЭкспа» (праспект Пераможцаў, 14) ***з 2 па 4 мая*** і супадзе ў часе з Сусветным днём свабоды прэсы – 3 мая, які штогод адзначае ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

Заяўку на ўдзел недзяржаўнага журналісцкага аб’яднання – ГА «БАЖ» – у выставе падпісаў выконваючы абавязкі дырэктара «БелЭкспа» **Яўген Брыгадны.**

3 мая ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» правядзе прэс-канферэнцыю на сваім стэндзе.

Будзем рады вас бачыць на стэндзе ГА «БАЖ»!

## План мерапрыемстваў на стэндзе Беларускай асацыяцыі журналістаў

***2 мая, чацвер***

13.00 Дыскусія «Інфармацыйная бяспека Беларусі ў медыясферы». Удзельнікі: **Андрэй Бастунец** – старшыня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», **Андрэй Елісееў** – дырэктар аналітычнага цэнтра EAST, **Вадзім Мажэйка** – аналітык BISS, **Паўлюк Быкоўскі** – медыяэксперт і іншыя.

14.00 Сустрэча з **Аляксандрам Старыкевічам**, галоўным рэдактарам інтэрнэт-газеты «Салідарнасць».

15.00 Сустрэча з **Андрэем Дынько**, галоўным рэдактарам часопіса «Наша Гісторыя».

16.00 Квіз ад **Паўла Свярдлова**, галоўнага рэдактара «Еўрапейскага радыё для Беларусі».

***3 мая, пятніца***

11.00 Брыфінг ГА «БАЖ» да Сусветнага дня свабоды прэсы. Удзельнікі: **Андрэй Бастунец** – старшыня ГА «БАЖ», **Алег Агееў** – намеснік старшыні, юрыст ГА «БАЖ».

11.30 Дыскусія «Наколькі аб’ектыўна месца Беларусі ў рэйтынгах свабоды слова». Удзельнікі дадаюцца: **Алег Агееў** – намеснік старшыні, юрыст ГА «БАЖ», **Андрэй Аляксандраў** – медыяэксперт. Запрошаны таксама прадстаўнікі Беларускага саюза журналістаў.

13.00 Сустрэча з **Іосіфам Сярэдзічам**, заснавальнікам, выдаўцом і галоўным рэдактарам газеты «Народная Воля».

15.00 Сустрэча з **Марынай Золатавай**, галоўным рэдактарам TUT.BY.

17.00 Сустрэча са **Змітром Бартосікам**, журналістам і літаратарам, лаўрэатам прэміі імя Ежы Гедройца.

***4 мая, субота***

11.00–13.00 Юрыст ГА «БАЖ» **Алег Агееў** адказвае на пытанні пра заканадаўства ў галіне медыя.

ИХ ОПЫТ

# Как работается коллегам в Украине?

*Собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине **Александр Цынкевич** побеседовал с **Игорем Чайкой**, еще совсем недавно возглавлявшим Независимый медиапрофсоюз..*

**– Свободны ли украинские СМИ и журналисты в выборе тем и освещении тех или иных событий? Сильно ли давление на журналистов со стороны политиков, чиновников, правоохранительных органов, представителей местной власти, собственников СМИ?**

– Я не вижу особых проблем со свободой слова и медиа в Украине. Выбор темы, героев, событий зависит лишь от самого журналиста или редактора издания. Или его владельца.

А политики, чиновники, представители власти или силовых структур, как правило, уже давно имеют свои информационные площадки. Так что сейчас это приобрело, так сказать, «полюбовный», или гибридный, характер. Но у каждого журналиста есть право не идти на поводу у владельца и его окружения – или уходить в «свободное плавание», или менять издание.

**– Пять лет прошло после Революции достоинства, как это отразилось на журналистах и СМИ? Поменялось что-то или нет с тех пор? В чем позитив, а в чем негатив, если он есть?**

– И снова вопрос выбора. Для кого-то эти пять лет стали некой «точкой отсчета» и проверкой на совместимость новых обстоятельств (порой достаточно экстремальных) со своими внутренними убеждениями. Кто-то остался в профессии, кто-то отдал предпочтение общественной деятельности, волонтерству или ушел защищать страну. А для кого-то ничего не изменилось (в том числе – и хозяева) и даже приоткрылись новые возможности в гибридном информационном хаосе.

**– Преследование журналистов за их профессиональную деятельность – это в Украине распространенное явление? Как часто к вам в организацию обращаются журналисты за помощью и получается ли решать такого рода проблемы?**

– Да, как в любой плюс-минус демократической стране может быть давление на бизнес. Да, не исключено желание криминалитета не допустить резонансных расследований. Но каких-то преследований за действительно честную журналистскую позицию я особенно и не знаю. Этим пытаются манипулировать, когда кому-то хочется сказать, что у нас со свободой слова все плохо. Но, по большому счету, это



неправда. Хотя, конечно, есть единичные случаи давления на журналистов.

Правда, достаточно часто позже выясняется, что это был вовсе и не журналист, а ряженный под представителя СМИ «общественный» деятель, каким-то образом получивший себе журналистскую «корочку» или пресс-карту и под видом этого хотевший убедить всех, что он сотрудник медиа.

Во всяком случае в последние два года моей профсоюзной деятельности именно подобные случаи и были в основном нашей головной болью.

**– Освещение тех или иных событий, размещение или снятие публикаций за деньги – насколько эти явления распространены в украинских СМИ?**

– А вот это действительно давно уже приобрело масштабы тотальной коммерции. Кажется, еще в 2006 году мы сняли документальный фильм «Свобода «джинсы». Украинский контекст» и, собственно, с нашей легкой руки термин «джинса» вошел в обиход и стал активно использоваться как синоним коррупции в медиа. И, к сожалению, и по сию пору этим не брезгуют даже самые «независимые» медиа. А выборы любого уровня в Украине – действительно настоящие «жнива» для медиа (кстати, это термин не мой, его с удовольствием используют сами медийщики).

**– В Украине только что закончились президентские выборы. Какую роль сыграли СМИ? Насколько сильно было их влияние на результат?**

– Эта избирательная кампания была не грязнее и не чище других последних выборов как в Украине, так и в некоторых странах за рубежом последних нескольких лет. Да, сменились стратегии и тактики, добавился фактор новых технологий и гибридности в совокупности с желанием нашего, мягко говоря, недоброжелательного соседа повлиять на результаты выборов в нашей стране. Да и не только в нашей по большому счету! И, конечно, СМИ в этой истории являлись одним из самых важных инструментов. Но так было, по-моему, с появлением медиа во все времена в той или иной степени, менялись, в основном, лишь технологии.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.04.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27 735 экз. Заказ № 1232.

